Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 15 (2209) 11 красавіка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

# ЦІ НАБЛІЗІЛІСЯ МЫ ДА ІСЦІНЫ?

## ГУТАРКА З ГІСТОРЫКАМ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎЦАМ Генадзем КІСЯЛЁВЫМ

**Было гэта ў сярэдзіне сакавіка. У рэдакцыю завітаў наш даўні аўтар, беларускі вучоны Генадзь Каханоўскі. Убачыўшы ў мяне на стале кніжкі «Пачынальнікі», «Героі і музы», «Расшукваецца класік», спісаныя лісткі паперы, дыктафон, з разуменнем усміхнуўся: «Мусіць з Генадзем Кісялёвым гутарылі! Сапраўды, юбілей у яго хутка». Усё так жа добразычліва ўсміхаючыся, выказаў свае адносіны да калегі: «Вялікі маўчальнік ён. Маўчыць і працуе. З таго, што ён напісаў, кепскага няма нічога».**

**Прапануем увазе чытачоў інтэрв'ю з гісторыкам і літаратуразнаўцам Генадзем КІСЯЛЁВЫМ, зробленае напярэдадні яго 60-годдзя.**

*— Генадзь Васільевіч, ваша апошняя кніга «Расшукваецца класік», дзе даследуецца аўтарства выдатных ананімных беларускіх твораў «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», выйшла на рускай мове. Чаму?*

— Раней гэтай жа тэме была прысвечана кніжка на беларускай мове «Пошукі імя». Потым адчуў патрэбу напісаць па-руску, бо меў у сваіх даследаваннях пэўныя дасягненні, якімі хацелася падзяліцца з больш шырокім колам чытачоў. Да таго ж мною выкарыстана надзвычай многа рускамоўных дакументаў, якія ў перакладзе страчваюць. Аднак тэма «Тараса» і «Энеіды»—мая любімая тэма, праца над ёю працягваецца. Мяркую выдаць яе з дапаўненнямі, ілюстрацыямі як дылогію і па-беларуску.

*— Як вы прыйшлі да гэтай тэмы і колькі ўжо часу займаецеся ёю?*

— А было гэта так. У пачатку 60-х я прыехаў у Вільню. Спачатку зацікавіўся Кастусём Каліноўскім. Выпусціў дзве кніжкі «Сейбіты вечнага» і «З думай пра Беларусь». Я[illegible] былі прыхільна сустрэты [illegible]лікай, я меў назапашаны матэрыял, і можна было б працягваць гэту тэму, але мяне захапіла новая — аўтарства ананімных паэм. Часам спрабую зразумець, чаму так сталася. Думаю, эпоха Кастуся Калі[illegible]ска га для мяне перастал[illegible]іць таямніцай, а мне захацелася новай таямніцы. Новая тэма быццам язда ў нязведанае. Сапраўднае даследаванне, дзе вынікі цяжка прадказаць. Гэтым работа прыцягвала і захапляла. Для навукоўца тэма значыць вельмі многа. Важна выбраць менавіта тую, якая б адпавядала душэўным схільнасцям чалавека. Тэма падказвае часам і пэўныя жыццёвыя крокі, уплывае на яго ўчынкі, кіруе ім. Скажам, калі я займаўся эпохай Каліноўскага, трэба было жыць у Вільні, бо многае тут з ім звязана, а прыйшла да мяне новая тэма і вымагала, каб я жыў і працаваў у Мінску. Тут у гістарычным архіве змяшчаліся самыя неабходныя для працы матэрыялы. Так у 1972 годзе я з сям'ёй канчаткова пераехаў у Мінск.

*— Адразу пасля вайны сярод першых самых неабходных твораў, надрукаваных яшчэ на дрэннай паперы, былі паэмы «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат». Вы таксама ставіце іх надзвычай высока?*

— Гарманічныя, элеганцкія творы. Асабліва дасканалы «Тарас на Парнасе».

*— А ўжо можна сказаць, што іх аўтарства ўстаноўлена, ці ёсць яшчэ сумненні?*

— Аўтарам «Энеіды» грамадскасць прызнае Вікенція Равінскага. У другім выданні «Хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя» пад рэдакцыяй Рагойшы і Лойкі «Энеіда навыварат» друкуецца як твор аўтарскі. Аўтарам «Тараса», як найбольш верагоднае, называецца імя Канстанціна Вераніцына. Ён самы блізкі да таго вобраза, якім даследчыкі цікавяцца ўжо больш за сто гадоў. Яго біяграфія адпавядае нашаму ўяўленню пра аўтара «Тараса на Парнасе». Гэта быў усходні беларус, прыгонны селянін, які здолеў атрымаць кніжную адукацыю, вучыўся ў гімназіі, у Горы-Горацкай акадэміі, жыў у Пецярбургу, ведаў Булгарына і Грэча. Аднак тут грамадскасць яшчэ поўнасцю не пераканалася ў правільнасці знойдзенага.

*— А што вы можаце расказаць пра Вікенція Равінскага?*

— Равінскі родам з мелкапамеснай смаленскай шляхты, якая мала чым адрознівалася ад беларускай. Прымаў удзел ва ўсіх важнейшых падзеях 1812 года, а потым удзельнічаў у вызваленчым паходзе рускай арміі на Захад. У адстаўку пайшоў у чыне палкоўніка. Па сваіх душэўных памкненнях быў блізкім да дзекабрыстаў, меў узмоцненае пачуццё ўласнай годнасці.

(Заканчэнне на 6-й стар.).



ЗЬНІЧ

# ГРАХІ ГІСТОРЫІ

### (ПАКАЯНЬНЕ АПОШНЯГА ТУТЭЙШАГА)

*Палюбі іншыя народы,*
*як свой уласны...*
(З казаньняў сьвятых).

**...я чую голас успамінаў —**
**нібы з магілы ўсіх вякоў:**
**сьвяшчэнны абавязак сына,**
**як крыж, цягнуць грахі**
**бацькоў...**

**мне гэты камень не па**
**сілах...**
**я падаю... і я малю:**
**«Не аддавай душу ў магілу!..**
**Ойча, я ворагаў люблю!..»**

**...ўспаміны сьцішацца сівыя,**
**і голас, жорсткі і сухі...**
**і я нямытае Расіі**
**дарую даўнія грахі...**

**і новай руньню ўстануць**
**пожні**
**стагоддзяў змрочных і**
**глухіх...**
**і я дарую братняй Польшчы**
**яе шляхотныя грахі...**

**я ўхілюся ад сірэнаў**
**і падымуся ад сахі...**
**і я Нямеччыне зьмірэннай**
**дарую марсавы грахі...**

**і Дух Сьвяты аблашчыць**
**сэрца...**
**як ноч, адыйдзе дух ліхі —**
**і возьме валадарства**
**сьмерці**
**мае у л а с н ы я грахі...**

*Жыровічы — Менск, 5—9 лютага 1991 г.*



**Мінск, 3 красавіка 1991 года. Так пачыналася рабочая раніца ў Партызанскім раёне сталіцы. Працоўныя калектывы электратэхнічнага, завода аўтаматычных ліній выйшлі на вуліцу, спыніўшы рух транспарту на некалькі гадзін. Гэта была, відаць, першая ў Беларусі забастоўка, што ўспыхнула стыхійна як пратэст людзей супраць рэзкага павышэння цэн на прадукты харчавання, усе тавары—ад пялёнкі для немаўляці да тэлевізара і звычайнай канапы.**

**А назаўтра, 4 красавіка, рабочыя аўтамабільнага, трактарнага, іншых заводаў Мінска пайшлі па Ленінскім праспекце да Дома ўрада. Іх былі тысячы — змучаных жыццём, даведзеных да адчаю так званай рэформай цэн, якую спецыялісты называюць проста татальным павышэннем, зняверaных перабудовай і абяцаннямі ўлад палепшыць іх сацыяльнае становішча. Перад Домам урада адбыўся мітынг, на якім гучала асноўнае патрабаванне — павысіць зарплату прапарцыянальна росту цэн.**

**Хваля забастовак і мітынгаў, пачаўшыся з Партызанскага раёна Мінска, пракацілася па многіх гарадах рэспублікі. І ўсюды гучаў пратэст супраць павышэння цэн, якое, па прагнозах палітыкаў, паставіць за мяжой беднасці 80 мільёнаў савецкіх грамадзян. Але бадай ці не наперадзе эканамічных ставіліся палітычныя патрабаванні: адстаўка Прэзідэнта СССР, адстаўка кіраўніцтва і роспуск Вярхоўнага Савета БССР, пазбаўленне правоў Кампартыі Беларусі, новыя выбары на шматпартыйнай аснове.**



**ЖЛОБІН: ТРЭЦЯЯ ЧАРГА БЕЛАРУСКАГА МЕТАЛУРГІЧНАГА ЗАВОДА**

# КАНТРАКТ ВЫКАНАНЫ, СУПРАЦОЎНІЦТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Адбыўся ўрачысты пуск трэцяй чаргі Беларускага металургічнага завода, пабудаванага фірмамі Аўстрыі і Італіі.**

Гаспадары, у даным выпадку кіраўнікі прадпрыемства і «бацькі» горада, пастараліся зрабіць так, каб гэты дзень запомніўся яго ўдзельнікам. Усё тут было: і дзяўчаты ў нацыянальных касцюмах, і ўрачыстае, пад апладысменты прысутных і ўспышкі фотаапаратаў, перарэзанне чырвонай стужкі. І грымела медзь духавога аркестра. Была і даволі працяглая экскурсія па тэхналагічнаму цыклу вытворчасці металакорду, у час якой госці, асабліва з нашага боку, маглі на свае вочы пераканацца ў бездакорным выкананні замежнымі фірмамі ўмоў кантракта, палюбавацца чыстымі і светлымі, абсталяванымі сучаснымі станкамі і машынамі вытворчымі карпусамі. Завяршыўся гэты агляд мітынгам савецка-аўстрыйскай дружбы, невялікім канцэртам мастацкай самадзейнасці.

Карацей, гаспадары здолелі стварыць атмасферу святочнасці. Яна адчувалася і ў настроі замежных спецыялістаў, прадстаўнікоў фірм і дзелавых колаў Аўстрыі і Італіі. У кароткіх інтэрв'ю па ходу экскурсіі, у выступленнях на мітынгу, наступнай потым прэс-канферэнцыі яны давалі высокую ацэнку вынікам супрацоўніцтва з нашай краінай.

1 мільён 100 тысяч тон вадкай сталі ў год — такія магчымасці завода. З яе будзе выраблядца якасны, на ўзроўні лепшых сусветных аналагаў металакорд, іншая дэфіцытная ў нас прадукцыя. Жлобінскі металакорд (ён, груба кажучы, выконвае ролю арматуры ў шыне кола ў аўтамабілі)—канкурэнтаздольны прадукт. Яго можна будзе нямала прадаваць на экспарт, зарабляць валюту, падкрэслівалі італьянскія і аўстрыйскія спецыялісты. Бо гэты завод — адзін з буйнейшых, калі не самы буйны ў свеце з падобных прадпрыемстваў. На словах «самы буйны ў свеце» рабілі націск, пэўна, ведаючы нашу былую схільнасць да гігантаманіі.

Ім не пярэчылі, бо «самы» ці «не самы», але выдатны завод пабудавалі. Серафім Афонін, старшыня праўлення канцэрна «Металургпрам» потым назваў трэцюю чаргу палацам, дзе створаны цудоўныя ўмовы працы.

Прымаючы віншаванні, Г. Банфероні, дэпутат італьянскага парламента, намеснік міністра прамысловасці, заначыў, што Італія—невялікая краіна ў параўнанні з нашай, але яна адна з перадавых у свеце па выкарыстанню найноўшых тэхналогій. Італія гатова і надалей шмат і плённа супрацоўнічаць з СССР у розных галінах прамысловасці.

Пані Ч. Даніелі, упаўнаважаны дырэктар італьянскай фірмы «Даніелі», таксама не хавае свайго аптымізму на добрую перспектыву.

— Набыты вопыт супрацоўніцтва, наладжаныя кантакты, дасягнутае ўзаемаразуменне дазваляюць нам думаць аб будучых сумесных праектах. Вядома, ёсць цяжкасці, але не будзем іх баяцца,—гаворыць Ч. Даніелі. Маю спробу высветліць у яе найбольш характэрныя цяжкасці яна дыпламатычна абыходзіць, заўважае толькі, што з набыццём вопыту лягчэй стала вырашаць узнікаючыя праблемы.

Пуск трэцяй чаргі па шчаслівому выпадку супаў з прыкметнай датай у супрацоўніцтве беларускіх спецыялістаў з замежнымі фірмамі. 10 гадоў назад пачаліся работы па будаўніцтву ў Жлобіне металургічнага завода. Свой уклад у ажыццяўленне праекта ўнеслі больш як 2 500 прадстаўнікоў 16 краін свету. Каля 1 000 замежфірм так ці інакш мелі дачыненне да ўзвядзення завода-гіганта. Таму нездарма старшыня праўлення аўстрыйскай фірмы «Фест-Альпіне» пан Візінгер назваў яго агульным дзіцем інжынераў розных народаў.

Калі М. Вайцянкоў, старшыня Гомельскага аблвыканкома, параўнаў пуск у эксплуатацыю новых магутнасцей у Жлобіне са святам працы, яркай праявай міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва, мне здалося гэта мітынговым перабольшаннем. Ну, пабудавалі наш цудоўны завод, дзякуй ім за гэта, але навошта такая красамоўнасць. Аднак наступны прамоўца з Аўстрыі, дырэктар акцыянернага таварыства «Аўстрыян Індустрыес» доктар Секіра нечакана развіў гэту тэму ў сусветным маштабе. «Апошнія некалькі месяцаў мы ўважліва сачылі за вайной на Блізкім Усходзе, дзе за надзвычай кароткі тэрмін сучаснай ваеннай тэхнікай былі знішчаны заводы, фабрыкі, масты, інфраструктура, карацей кажучы, прамысловыя каштоўнасці, на якія былі затрачаны велізарныя сродкі, праца мільёнаў людзей, — гаварыў доктар Секіра.

— Таму мы з вамі шчаслівыя людзі, працягваў ён, бо сабраліся тут па стваральнаму выпадку, з нагоды адкрыцця трэцяй чаргі, інакш кажучы, і гэта цудоўна. Міжнароднае цеснае супрацоўніцтва, прыкладам якога з'яўляецца гэты завод, можа служыць супраць сітуацыі, якая склалася на Блізкім Усходзе.

Вядома, як на ўсякім свяце, не было недахопу цёплых пажаданняў і віншаванняў беларускаму народу, жыхарам Жлобіна, працаўнікам, калектыву завода. Прадстаўнік урада Італіі Г. Банфероні выказаў жаданне часцей прыязджаць да нас у СССР, падзяліўся на[...]яй, што, магчыма, праз 5-10 г[...] яму таксама давядзецца ўдзельн[...]чаць у адкрыцці такога завода ў СССР. І вельмі хацелася б, каб яго дырэктарам была савецкая жанчына-менеджэр.

Пэўна, такое пажаданне выклікана тым, што ўладальнік фірмы «Даніелі» пані Ч[...]ія Даніелі, па словах Г. Банфе[...], стала ў Італіі сімвалам дзелавога поспеху жанчыны. Яе фірма «Даніелі» разам з аўстрыйскай «Фест-Альпіне» ўнесла асноўны ўклад у будаўніцтва завода.

Пажаданні пажаданнямі, а пакуль яго дырэктарам з'яўляецца Ю. Феакціставу, паважны мужчына і энергічны кіраўнік. Ужо сёння для Юрыя Васільевіча пасля ўручэння яму сімвалічнага ключа ад комплексу замежнымі партнёрамі пачаліся будні па асваенню новых магутнасцей, праблемы, праблемы... Не прынята гаварыць пра іх на ўрачыстасцях, але Феакціставу усё ж закрануў асобныя. Гэта, у першую чаргу, чатыры невытворчыя аб'екты, без якіх нельга паўнацэнна эксплуатаваць новы комплекс. Іх спачатку меркавалі будаваць уласнымі сіламі, але калі агледзеліся, то вырашылі, што больш выгадным будзе заключыць кантракт з замежнымі фірмамі.

У. Пілюта, намеснік старшыні Саўміна БССР, таксама заклапочаны будучай работай трэцяй чаргі завода.

— Ужо сёння дырэкцыі завода трэба думаць аб тым, як трымаць у належным стане вытворчыя магутнасці, забяспечыць тэхнічны догляд, рамонт, своечасовую замену вузлоў і дэталей у будучыні, абнаўляць прадукцыю і г. д.

Так, за святам прыходзяць будні. Чакаецца, што хутка на металургічным заводзе будзе працаваць 8 тысяч чалавек.

— Завод удыхнуў новае жыццё ў горад, ён памаладзеў, папрыгажэў. Усё не пералічыць. Частка людзей, і немалая, знайшла работу на заводзе, атрымалі жыллё. Прадпрыемства яго шмат будуе, значная частка інфраструктуры горада пабудавана ці рэканструявана таксама з дапамогай завода. Частка металу, які выпрабляецца тут, можа трапіць на патрэбы горада. Будуць гораду ісці і адлічэнні ад яго прыбытку, — гаворыць старшыня гарсавета М. Афанасьеў.

Сёння многія надзеі жыхароў Жлобіна на палепшэнне жыцця звязаны з паспяховай дзейнасцю прадпрыемства. Будзе добра заводу — будзе добра і гораду.

**Л. ТУГАРЫН.**

# ЖАНЧЫНА Ў МУЖЧЫНСКІМ КАЛЕКТЫВЕ

**Жанчына-дырэктар — з'ява ў нашым жыцці не такая ўжо рэдкая. Але быць дырэктарам у чыста мужчынскім калектыве вадзіцеляў — на гэта, бадай, рашыцца не кожная. І калі шэсць гадоў назад прапанавалі Ліліі Рылушкінай узначаліць у Гомелі грузавы аўтамабільны парк, яна доўга ўзважвала ўсе «за» і «супраць».**

**Усё працоўнае жыццё Ліліі Антонаўны звязана з аўтакамбінатам. Прыйшла сюды дзяўчынкай-рахункаводам, працавала сумленна, гадавала дачку, вучылася, пазнавала людзей. Ішлі гады. Дзяўчынка-рахункавод стала Ліліяй Антонаўнай, усімі паважаным у аўтапарку намеснікам дырэктара па эканамічных пытаннях. А затым вось — і дырэктарам.**

**Вельмі часта свой рабочы дзень пачынае Лілія Антонаўна з абходу тэрыторыі аўтапарка: то праводзіць у рэйс вадзіцеляў каля дыспетчарскай, то гутарыць з рамонтнікамі зоны тэхабслугоўвання, то цікавіцца работай запраўшчыкаў. У парку даўно не здзіўляюцца, што ведае дырэктар кожнага з тысячы сваіх рабочых па прозвішчу, а многіх — па імені і імені па бацьку. І хаця з недаверам прынялі некалі яе прызначэнне на пасаду дырэктара, сёння паважаюць і любяць: за жаночую ўвагу да людзей, акуратнасць, сумленнасць, ум[...] трымаць слова і выконваць узя[...] перад калектывам абавязацельствы.**

**НА ЗДЫМКАХ: Лілія РЫЛУШКІНА; з унучкай Наташай; дырэктар аб'ядання гутарыць з вадзіцелямі Іванам ЦЫРЫКАВЫМ і Барысам [...]ЧАРБАКОВЫМ.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**



# ЗАСТАНЕМСЯ БЕЗ ХЛЕБА

Развал эканомікі, парушэнне існуючых дзелавых і вытворчых сувязей прывялі да таго, што гэтай вясной на палях краіны будзе працаваць на дзесяткі тысяч трактароў менш, чым у любым з папярэдніх 25 гадоў. Менш, чым год назад, будзе ў распараджэнні гаспадарак такіх неабходных прылад, як культыватары, плугі, бароны. Пагоршыцца сітуацыя з забеспячэннем запаснымі часткамі і пестыцыдамі.

Такі «прыярытэт» у адносінах да вёскі сёння можна разумець як «аграбленне», «развал». У сувязі з гэтым Савет Саюза аграрнікаў Беларусі звярнуўся з адкрытым пісьмом да Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў рэспублікі з патрабаваннем неадкладна прыняць меры, таму што будзе позна і пацерпяць ад вынікаў такой палітыкі ў першую чаргу гараджане.

Грунтуючыся на тым, што сельская гаспадарка — галоўны фактар стабільнасці ў грамадстве і мае патрэбу ў пастаяннай увазе, гаварылася ў пісьме, мы выказваем Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў Беларускай ССР рашучы пратэст і патрабуем паскорыць работу па выкананню пакета патрабаванняў па рэалізацыі неадкладных мер адраджэння сялянства, галін аграпрамысловага комплексу, іх эканамічнай, сацыяльнай і прававой абароненасці. Неабходна таксама паскорыць прыняцце Закона БССР «Аб прыярытэтным сацыяльна-культурным і эканамічным развіцці вёскі і аграпрамысловага комплексу». Асноўай указанага закона павінен стаць спецыяльны артыкул, што прадугледжвае [...]атрыманне цэнавага парытэт[...]а прадукцыю сельскай гас[...]аркі і прамысловасці.

## НАСТАЎНІК ГОДА



Перамога В. Гербутава ў конкурсе «Лепшы настаўнік года» не стала нечаканасцю і для яго калег па 49-й сярэдняй школе Мінска, і для тых педагогаў горада, хто працуе ўжо па методыцы Гербутава, хто ведае Валерыя Аляксандравіча не першы год як таленавітага настаўніка, асветніка па складу душы, фізіка ад бога. Па волі лёсу і жыццёвых акалічнасцей выпускніку фізфака МДУ з дыпломам выдатніка давялося паехаць выкладчыкам у Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут, дзе ён прапрацаваў больш дзесяці гадоў. А ў 1981 годзе ён часова прыйшоў настаўнікам фізікі ў СШ № 49 г. Мінска. А «часова» стала справай жыцця, дзе Гербутаў знайшоў сябе, адкрыў, як цяпер сам лічыць, скрытыя ў ім педагагічныя схільнасці, галоўныя з якіх — уменне зацікавіць нават самых раўнадушных, навучыць мысліць, звязваючы фізіку і яе законы з навакольным жыццём, што акружае яго вучняў. І трэба прызнаць, гэта яму ўдаецца, сцвярджаю гэта з зайздрасцю чалавека, у якога не было такога настаўніка і такіх урокаў, што захапляюць сваёй творчай атмасферай.

Сёння Валерый Аляксандравіч працуе па аўтарскай праграме выкладання фізікі. Створана ўжо школа Гербутава, ён настаўнік-метадыст, яго методыкі выдадзены ў дапамогу калегам, яго ўрокі адзняты на відэакасеты, з якімі з цікавасцю знаёмяцца настаўнікі на курсах павышэння кваліфікацыі. Выдатнік народнай адукацыі, лаўрэат некалькіх Усесаюзных педагагічных чытанняў, школьны настаўнік фізікі В. Гербутаў — аўтар многіх публікацый у друку, навучальных дапаможнікаў і рэкамендацый. Ён вядзе вялікую навуковую работу, рыхтуецца да абароны кандыдацкай дысертацыі.

**НА ЗДЫМКУ:** на адным з урокаў фізікі ў 9 «А» класе вызначаны «пераможца» ўрока. Ім стала Наталля КЛАПАТОК, якую віншуе В. ГЕРБУТАЎ.

Фота Ю. ПАЎЛАВА.

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

# СТАВІМСЯ КРЫТЫЧНА

Апошнія палітычныя і гаспадарчыя пераўтварэнні ў Польшчы, якія праводзяцца пад патранажам «Салідарнасці», ацэньваюцца праз грамадзян даволі кантраверсійна, ужо без эйфарыі і са слабеючым аптымізмам. Грамадскае адчуццё пацьвердзіў камунікат Галоўнай статыстычнай управы Польшчы, паводле якой у 1990 гозде наступіў чарговы спадак агульнадзяржаўнага прадукта (вала) на 12 працэнтаў, а прамысловай прадукцыі на 23 працэнты. У тым жа годзе цэны ўсіх тавараў узраслі ў тры разы, зарплата страціла сваю рэальную вартасць на 28 працэнтаў, а пенсіі — на 14 працэнтаў. Працоўным жыць усё цяжэй, а махляры багацеюць.

У замежным гандлі СССР перастаў лічыцца галоўным гандлёвым партнёрам Польшчы. Яго месца заняла ФРГ — партнёр багаты, але і небяспечны, які шукае сыравіны і рынкаў збыту на свае высакаякасныя тавары.

Аб гаспадарцы Беласточчыны даных яшчэ няма. Абставіны хіба зблізканыя, калі не горшыя. З вялікімі цяжкасцямі працуюць мясцовыя тэкстыльныя фабрыкі з увагі на недахоп сыравіны і, асабліва, рынкаў збыту прадукцыі. Вядомыя ва ўсёй Еўропе «Фасты», «Пасманта», заводы інструментальна-патронны, «Ухваты», панельнага будаўніцтва «Фадом», дарожных машын «Мадро» і многа іншых страцілі савецкі рынак продажу вырабаў, прадукуюць «на склады» і шукаюць выхаду ў змяншэнні ліку рабочых, скарачэнні рабочых дзён і нават перыядычным устрымліванні вытворчасці. Многія іншыя прадпрыемствы ўжо ліквідуюцца (галантарэйныя, транспартныя, паліграфічныя).

Гэтыя абставіны хутка прывядуць да масавага беспрацоўя. Зараз звольненыя з працы хапаюцца яшчэ гандлю, псеўдатурыстыкі, працы ў розных прыватных суполках, што найчасцей нават паляпшае іх матэрыяльнае становішча. Цяжка прадбачыць, як надоўга. З заходніх краін наплывае ўсё больш высакаякасных тавараў, з якімі нашая прамысловасць канкурыраваць не зможа. Трэба заўважыць, што ў апошнім дзесяцігоддзі на Беласточчыне не збудавана ніводнага новага завода і амаль ніводнага не змадэрнізавана.

Зараз у найбольш бесперспектыўным становішчы знайшлася сельская гаспадарка Беласточчыны, асабліва яе паўднёвы ўсход, ад дзесяткаў гадоў недаінвеставаны і абезлюднены. Дагэтуль сяляне мелі магчымасць продажу сваіх тавараў у сельскагаспадарчых кааператывах «Самапомоц хлопска». Зараз на збожжа, мяса, гародніну няма пакупнікоў нават на рынках.

Цікавыя даныя прыводзіць (далёка не прагрэсіўная) мясцовая газета «Кур'ер Подляскі» з 31.1.1991 года. На рынку ў Бельску Падляшскім адзін цэнтнер жыта ў студзені прадаваўся за 45 тысяч злотых, гэта значыць роўна вартасці 15 кілаграмаў хлеба, або трох чвэрцяў літра водкі, або двух кілаграмаў селядца. Пшаніца плацілася 75 тысяч злотых. Мяса [illegible]д у Беластоку плаціў за ж[illegible] вагу аднего кілаграма свініны 10 тысяч злотых, а гавядзіны — 7 тысяч злотых. Азначае гэта, што каб купіць сярэдняй магутнасці трактар, трэба было б селяніну прадаць проста нерэальную колькасць — 120 [illegible] збожжа або 8 тон мяса. [illegible]ныя ўгнаенні сталіся недаступнымі. Цана цэнтнера калійнай солі раўнялася цане цэнтнера жыта, а азотнатукавых угнаенняў — у тры разы даражэй. Няма ніякай сталай палітыкі суадносін паміж цэнамі на прамысловыя і сельскагаспадарчыя тавары. Парушаюцца стымулы вытворчасці то аднаго, то другога сектара, траціць на гэтым раздробленая, слаба змеханізаваная сельская гаспадарка. Глыбокі крызіс непазбежны, але аб гэтым няма каму думаць, усе заняты палітыкай.

Гэта і ёсць адказ на пытанне, чаму беларуская меншасць на Беласточчыне крытычна і недаверліва адносіцца да сучасных грамадскіх і эканамічных пераўтварэнняў. Выбары новага прэзідэнта, пакліканне іншага ўраду ці чакаючыя нас чарговыя надзвычайныя выбары ў сейм і Сенат Польшчы не развяжуць гаспадарчых цяжкасцей. Патрэбна стабільная разважлівая эканамічная палітыка.

З Беласточчыны паведамляюць аб чарговых праявах дыскрымінацыі беларусаў, гэтым разам на найвышэйшым узроўні — навукоўцаў. Інакш нельга вытлумачыць адносіны вузаўскіх уладаў да ўстрымлівання навуковага авансу па 5, 10 і нават 15 гадоў вядомых на Беласточчыне і ва ўсёй краіне дактароў: філолагаў Варшаўскага універсітэта Аляксандра Баршчэўскага і Яна Чыквіна, вучоных філіяла таго ж універсітэта ў Беластоку сацыёлага Андрэя Садоўскага і хіміка Мікалая Тарасевіча, а таксама Яна Піўніка. Гэта вельмі ахвярныя, але матэрыяльна і маральна пакрыўджаныя праз улады, выхаваўцы многіх пакаленняў польскага студэнцтва. Іх сябры, кандыдаты навук, ужо даўно атрымалі званні прафесароў.

У. Ю.

Беласток.

**З вялікім хваляваннем я падпісаўся на вашу газету, спадзеючыся атрымліваць весткі з роднай Беларусі. Але вось прайшло ўжо многа часу, а газета да гэтае пары не прыйшла. У «Саюздруку», што ў Чарнаўцах, мне адказалі, што «Голас Радзімы» ім не дасылаецца. Значыць, нешта «сапсавалася» ў «Саюздруку» Беларусі! Чаму ваша газета не можа дайсці да Чарнаўцоў!**

г. Чарнаўцы. **Ф. СІНЮК.**

**З пачатку года бібліятэка БІТ (Беларуска-індзейскае таварыства) па падпісцы не атрымала ніводнага нумара «Голасу Радзімы», якую мы лічым адной з важнейшых для нашай работы. Мы звярнуліся ў 49-е аддзяленне сувязі горада. Нам растлумачылі, што «Голас Радзімы» да іх не трапляе. Але чаму!**

г. Гомель. **А. СІМАКОЎ.**

**Першым нумарам «Голасу Радзімы», які я атрымаў у гэтым годзе, стаў № 5-ты. Я даслаў скаргу ў газетна-часопісную экспедыцыю Дому друку, але адказу і пагэтуль няма, як і першых чатырох нумароў. Ваша газета для замежных беларусаў каштуе і падвойнай цаны. Праўда, савецкай пошце, хоць у дзесяць разоў больш дай, нічога ў тэрмін мець не будзеш. Хто адкажа за гэта!**

Адэса. **Юрась СВІРКА-КАВАЛЬСКІ.**

**Я быў пастаянным падпісчыкам вашай газеты, але цяпер пайшоў трэці месяц, а ніводнага нумара я не атрымаў. Калі вы не прымусіце іх вярнуць усе нумары, дык на наступны год — бывай, «Голас Радзімы». Адна надзея на вашу дапамогу.**

г. Гомель. **У. ДЗЯЛЕЦ.**

## ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# ПАРАДЫ ПАДМАНУТЫМ ПАДПІСЧЫКАМ

### ДАЕ НАЧАЛЬНІК МІНСКАГА ГАРАДСКОГА ПРАДПРЫЕМСТВА «САЮЗДРУК» Ларыса ШАБЛОЎСКАЯ

**— Ларыса Кузьмінічна, думаю, вы пагодзіцеся з тым меркаваннем, што леташняя падпісная кампанія, збітая на горкі яблык крызісам, неразбярыхай і безадказнасцю, у вялікай ступені аказалася сарванай. Ці варта гаварыць, якой сілы «забаронены» ўдар нанёс гэты зрыў перыядычным выданням, чые, у тым ліку і «Голасу Радзімы», інтарэсы былі раструшчаны. Больш таго, хоць яна, кампанія, і прайшла, але ў нашу рэдакцыю ізноў дасылаюцца скаргі: людзі, падпісаўшыся на «Голас Радзімы», альбо зусім не атрымліваюць штотыднёвік, альбо даходзіць ён да іх нерэгулярна. Вось я падабраў чатыры лісты: з Гомеля, Чарнаўцоў і Адэсы... Дык што, мінулагодняе бязладдзе з падпіскаю працягваецца!**

— Вядома, тут праца паштовых аддзяленняў сувязі не вытрымлівае крытыкі. Газета павінна прыходзіць падпісчыку ў тэрмін, гэта — закон. А калі чалавек адзін нумар атрымае, а два не, дык куды гэта варта?! Мы, са свайго боку, не займаемся дастаўкай падпісчыку выпісанай ім друкаванай прадукцыі. Мы адказваем толькі за арганізацыю і афармленне падпіскі.

**— Што гэта значыць! Ці не маглі б вы схематычна праілюстраваць сказанае!**

— На аснове заявак ад нашых мясцовых аддзелаў мы, рэспубліканскі «Саюздрук», высылаем усім паштовым аддзяленням, у якіх, напрыклад, нехта падпісаўся на «Голас Радзімы», так званую «даставачную картку». На падставе гэтай карткі пошта і абслугоўвае падпісчыка.

**— Такім чынам, калі наш чытач атрымлівае наша выданне з перабоямі, гэта сведчыць аб тым, што тая картка «мае месца быць» на пошце. А яна, пошта, у гэтым выпадку цалкам нясе адказнасць за парушэнні і няякаснае абслугоўванне насельніцтва!**

— Безумоўна.

**— Ларыса Кузьмінічна, гэта адзін бок дылемы. Другі датычыцца, дзеля прыкладу, нашых гомельскіх падпісчыкаў У. Дзяльца і А. Сімакова, якія не атрымалі ніводнага (!) нумара. Што тут трэба думаць: іхніх картак на пошце няма!**

— Няма...

**— Альбо ад вас яна не прыйшла, альбо згубілася па дарозе ці на пошце... Ад гэтага чалавеку не лягчэй. Як тады быць!**

— Канешне, бывае нешта не атрымліваецца і ў нас. Трэба шукаць памылку, ісці на паштовае аддзяленне па месцу жыхарства.

**— Людзі ідуць, а ім гавораць: «Няма». І ніхто больш не хоча размаўляць з імі, як гэта вынікае з пісьмаў.**

— Калі ў вашага чытача ёсць квіток аб падпісцы, супрацоўнікі пошты абавязаны даць далейшы ход справе, высветліць і выправіць памылку. Калі ж здараюцца выпадкі абыякавасці, трэба ісці вышэй, пісаць заяву на імя кіраўніка гарадскога паштамта альбо вытворча-тэхнічнага ўпраўлення сувязі, якое існуе ў кожным раённым цэнтры. І — пісаць у рэдакцыю...

**— І праз усе гэтыя бюракратычныя прыступкі, турботы чытач павінен праходзіць пасля таго, як заплаціў свае кроўныя грошы... І гэта ўсё, каб атрымаць газету па падпісцы, у чым зацікаўлена не толькі рэдакцыя, але і тая ж пошта, і «Саюздрук», як таго патрабуюць самафінансаванне і службовыя абавязкі. Вось так мы і губляем нашу аўдыторыю... Дарэчы, Ларыса Кузьмінічна, летась такіх чытальніцкіх скаргаў мы атрымлівалі значна менш.**

— Вы ж напачатку гаварылі аб цяжкасцях, з якімі сустрэлася ў мінулым годзе падпісная кампанія. Слоў не хапае... Напрыклад, адной з прычын таго, што за межамі БССР, у іншых рэспубліках, людзям адмаўлялі ў падпісцы на беларускія выданні, была названа адсутнасць там нашых каталогаў. Уявіце сабе, што яшчэ ў ліпені мы разаслалі іх саюзным пунктам падпіскі. А толькі ў канцы верасня, устрывожаныя прапажай каталогаў, кінуліся на пошукі і знайшлі іх на маскоўскім паштамце без усялякага руху... Ці ўзяць, скажам, той факт, што ўжо ў працэсе падпіскі мы атрымалі 2,5 тысячы змяненняў. З адной Арменіі — дзевяць. А кожнае трэба было ўнесці ў каталог.

**— Тыя крокі, аб якіх мы з вамі гаварылі, могуць зрабіць і падпісчыкі, якія жывуць за межамі БССР!**

— Так.

**— Дзякуй вам за размову. Я вам пакідаю пісьмы са скаргамі нашых чытачоў, каб вы разабраліся канкрэтна па кожнай.**

— Мы гэта зробім абавязкова і дадзім адказ «пацярпеўшаму» адрасату.

**Інтэрв'ю ўзяў Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

Іван САВЕРЧАНКА

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА



65

Хітры ход Льва Сапегі ў Маскве разгадалі толькі тады, калі ён 19 верасня 1609 года са сваім корпусам знаходзіўся ўжо пад Смаленскам, куды праз два дні падышло і каралеўскае войска, якім камандавалі асабіста Жыгімонт III ды яго сын Уладзіслаў.

Пачалася працяглая аблога Смаленска. Праз нейкі час сюды прыехалі многія з рускіх дваранаў, што раней служылі «тушынскаму злодзею», а цяпер хацелі «цалаваць крыж» манарху Рэчы Паспалітай і выказвалі сваё жаданне бачыць яго сына на рускім прастоле.

Леў Сапега ўзяўся за тэрміновую падрыхтоўку артыкулаў, якія ўтрымлівалі асноўныя прынцыпы каранацыі Уладзіслава і яго далейшага кіравання ў Маскоўскай Русі. 14 лютага 1610 года дакумент, падрыхтаваны канцлерам і падпісаны Жыгімонтам III, быў перададзены рускаму дваранству. Як і разлічваў Сапега, умовы абрання на царскі прастол Уладзіслава, што амаль не змянялі існуючых у Маскоўскай Русі парадкаў, падтрымала значная частка маскоўскіх баяраў. Неўзабаве ў сталіцы ўспыхнулі хваляванні, і ўжо 19 ліпеня 1910 года ворагі Васіля Шуйскага прымусова пастрыглі яго ў манахі. У ноч з 20 на 21 верасня 1610 года рэчпаспалітае войска заняло Маскву.

Зыходзячы з інтарэсаў Вялікага Княства, Леў Сапега пачаў настойліва дамагацца ад Жыгімонта III дачакацца капітуляцыі Смаленска (у выніку перамогі Смаленск і смаленскія землі адыходзілі Княству) і толькі пасля гэтага адпраўляцца ў Маскву, каб каранаваць

66

Уладзіслава.

7 кастрычніка 1610 года канцлер прымаў пад Смаленскам рускае пасольства на чале з мітрапалітам Філарэтам ды князем Васілём Галіцыным, якія прасілі аб неадкладным прыездзе ў Маскву Уладзіслава. Але Леў Сапега быў няўмольны. Ён патрабаваў, каб папярэдне быў здадзены Смаленск. «Мы хочам,— гаварыў канцлер паслам,— каб Смаленск цалаваў каралю крыж толькі дзеля гонару, у знак пашаны да яго». А калі і гэтая хітрасць не дапамагла, ён падкупіў членаў пасольства — Тамілу Лугоўскага ды Васіля Сукіна — і адправіў іх у Смаленск, каб яны ўгаварылі жыхароў адкрыць гарадскія брамы ды ўпусцілі беларускіх жаўнераў. Але зноў усё марна. Ваявода Шэін не жадаў здаваць горад без згоды на тое патрыярха Гермагена.

Усе мудрагелістыя спробы Льва Сапегі авалодаць Смаленскам без ахвяраў не мелі поспеху. Толькі трэцяга чэрвеня 1611 года знясілены горад быў узяты штурмам. Ваявода Шэін разам з сям'ёю трапіў у палон, дачку і жонку якога Леў Сапега ўзяў да сябе ў прыгон. Рускіх паслоў Філарэта і Галіцына таксама арыштавалі і адправілі ў крэпасць Марыенбург, адкуль пазней перавезлі ў вязніцу аднаго з маёнткаў канцлера.

XXVII

Ведаючы аб той ролі, якую адыгрываў Сапега ва ўсёй усходняй палітыцы Рэчы Паспалітай, рускія баяры, купецтва ды служылыя людзі спяшаліся наперад выслужыцца перад ім, узводзячы пры гэтым адзін на другога паклёпы ды абвінавачванні ва ўсіх смярот-

67

ных грахах.

Вайсковыя і палітычныя поспехі, аднак, мала радавалі Сапегу. Далей трымаць велізарную армію на маскоўскіх землях не было як. Не хапала сродкаў, патрэба ў якіх з часам зусім не змяншалася. Актыўныя дзеянні распачынаў дзесяцітысячны корпус шведаў пад камандаваннем Якава Дэлагардзі, што прыйшоў на дапамогу Маскоўскай Русі.

Леў Сапега быў змушаны вярнуцца на радзіму і заняцца ўнутрыгаспадарчымі праблемамі. У Маскве засталіся нязначныя сілы Княства — харугвы Яна Сапегі ды Яна Карла Хадкевіча, але і яны праз нейкі час пакінулі горад.

Ад свайго намеру вярнуць дзедзічныя землі ды пасадзіць на маскоўскі прастол каралевіча Уладзіслава Леў Сапега, як паказалі пазнейшыя падзеі, не адмовіўся. У 1617 годзе ён арганізуе чарговы паход на Маскву, у якім, апроч беларускіх ды польскіх жаўнераў, удзельнічаў 20-тысячны атрад запарожскіх казакаў на чале з іх гетманам Пятром Канашэвічам-Сагайдачным.

Ужо восенню 1618 года рэчпаспалітае войска штурмавала Маскву. У другой палове верасня над горадам з'явілася камета. Напалоханыя «нябесным знакам», жыхары Масквы чакалі страшных падзеяў. Але — бог мілаваў. Нягледзячы на ўтрапёнасць беларускіх жаўнераў ды запарожскіх казакаў, горад выстаяў аблогу.

Адчуваючы, што авалодаць Масквою не хопіць сілаў, канцлер, параіўшыся з Уладзіславам, прыняў рашэнне пачаць перагаворы аб міры з Маскоўскаю Руссю. Пасля некаль-

68

кіх папярэдніх спатканняў з рускімі прадстаўнікамі, першага снежня 1618 года ў мястэчку Дзеуліна, што непадалёк ад Тройца-Сергіевай лаўры, Леў Сапега (ён асабіста ўзначальваў камісію) паставіў свой подпіс пад Граматай аб міры між Рэччу Паспалітай і Маскоўскай Руссю на 14 гадоў і шэсць месяцаў.

***

На сямідзесятым годзе жыцця, 25 ліпеня 1625 года, Леў Сапега атрымаў вялікагетманск[illegible] булаву Вялікага Княства, якая вакавала з [illegible]сня 1621 года пасля смерці Яна Карла Хадкевіча. Але лаўры не прынеслі спакою. Апроч прыватнага канфлікту з польным гетманам Крыштофам II Радзівілам, што таксама прэтэндаваў на пасаду вялікага гетмана, на плечы састарэлага Сапегі лёг увесь цяжар вайны са Швецыяй, пад эгідай якой у 20-я гад[illegible]VII стагоддзя ў Еўропе склалася кааліц[illegible]ратэстанцкіх дзяржаваў (Швецыя, Англія, Данія, Галандыя ды пратэстанцкія землі Германіі) з мэтаю заваявання каталіцкага свету.

Па вясне 1625 года шведскі кароль Густаў-Адольф пераправіў на 76 караблях сваё войска цераз Балтыйскае мора і пачаў акупацыю Княства, ведучы наступленне ў двух напрамках: на Полацк і Вільню. У надзвычай складаных умовах, калі да варожага наступлення дадаўся страшэнны мор, што ахапіў Вільню, Гародню, Бярэсце, Наваградак, Менск, Слуцк ды іншыя беларускія землі, Леў Сапега ахвяраваў усёю маёмасцю і скарбам, набытым за жыццё, аддаўшы на ўтрыманне войска нешта 40 тысячаў фларэнаў.

69

Дзякуючы Льву Сапегу, яго самаахвярнасці, Вялікае Княства ў 20-я гады XVII стагоддзя не знікла з карты Еўропы, на што разлічваў Густаў-Адольф. У верасні 1629 года ў Альтмарку быў нарэшце падпісаны мір са Швецыяй.

У канцы жыцця Леў Сапега шмат часу прысвячаў упарадкаванню галоўнага архіва Вялікага Княства (усяго налічвае 556 тамоў). Пад яго кіраўніцтвам шматлікія дакументы беражліва перапісваліся нанава. Багата сродкаў Сапега аддаваў на пабудову храмаў, апекаваў [illegible] мастакамі і літаратарамі.

[illegible]мёр Леў Іванавіч Сапега сёмага ліпеня 1633 года ў Вільні на 77 годзе жыцця.

Сёння, углядаючыся праз тоўшчу стагоддзяў у далёкае мінулае нашае Бацькаўшчыны, ацэньваючы месца вялікага канцлера ў гісторыі Беларусі апошняй чвэрці XVI—30-х гадоў XVII стагоддзяў, пераконваешся, што без такой [illegible]бакова адоранай асобы, як Леў Сапега, [illegible]рускае сярэдневяковае гаспадарства наўрад ці змагло б захаваць сваю незалежнасць, не кажучы ўжо пра ўзвышэнне ды незвычайны культурны росквіт, дасягнутыя ў той перыяд, які сапраўды з поўным правам можна назваць «эпохаю Льва Сапегі». Зробленае гэтым выдатным чалавекам на працягу ягонага няпростага жыцця ў спрадвечным імкненні беларусаў да дзяржаўна-палітычнай, нацыянальна-культурнай ды рэлігійнай незалежнасці, бясспрэчна, заслугоўвае таго, каб памяць аб ім ва ўсе часы жыла ў сэрцах нашчадкаў і імя Льва Сапегі на Беларусі заўсёды вымаўлялася з гонарам.

Заканчэнне. Пачатак у №№ 7—14.

## САЮЗ ЛІКВІДАТАРАЎ ЧАКАЕ ДАПАМОГІ

# НЕ АБМЯЛЕЕ «ПРЫПЯЦЬ»

**Летась Мінскі гарадскі камітэт Савета народных дэпутатаў зарэгістраваў саюз удзельнікаў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС «Прыпяць». Нядаўна ён атрымаў статус рэспубліканскага.**

**З выканаўчым дырэктарам саюза Мікалаем ЦЮХЛОВЫМ гутарыць наш карэспандэнт Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

*— Мікалай Нічыпаравіч, якая мэта стварэння «Прыпяці»? На сённяшні дзень «пры Чарнобылі» ўжо дзейнічаюць столькі саюзаў, фондаў, што можна і арыенціроўку страціць...*

— Кожная такая арганізацыя мае права на жыццё. І ні адна з іх, як і «Прыпяць», не з'яўляецца каму-небудзь канкурэнтам. Для стварэння нашага саюза былі важкія прычыны. У ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, як вядома, прымалі ўдзел тысячы людзей. Для многіх з іх гэта не прайшло бясследна. На сённяшні дзень больш пяцідзесяці чалавек сталі інвалідамі. Вынікі апраменьвання будуць адбівацца на здароўі людзей яшчэ доўгія гады. І тут узнік парадокс: медыцынскія ўстановы, мясцовыя выканаўчыя органы не толькі не садзейнічаюць, але перашкаджаюць устанаўленню ісціннай прычыны захворванняў. Чарнобыльцы ці, як мы іх называем, «ліквідатары», у гэтым выпадку аказаліся бяспраўнымі перад такімі бюракратычнымі рагаткамі, не карыстаюцца належнымі льготамі. І таму, згодна з нашым статутам, «Прыпяць» вырашае пытанні лячэння, прававой, сацыяльнай абароны пацярпеўшых у час ліквідацыі аварыі. Займаемся мы і іх бытавымі праблемамі.

Акрамя гэтага, саюз будзе аб'ектыўна інфармаваць насельніцтва рэспублікі аб узроўні радыяцыі ў тым ці іншым рэгіёне рэспублікі, аб мэтазгоднасці ці немагчымасці весці сельскагаспадарчыя работы ў іх.

*— Але гэта ўсё перспектывы. У нашай гутарцы, Мікалай Нічыпаравіч, мы ў асноўным ужываем слова «ў будучыні». Хутка споўніцца год, як створаны саюз. Што ўжо зроблена?*

— У нас склаліся добрыя адносіны з народнымі дэпутатамі Іванам Смолярам, Генадзем Грушавым і іншымі, якія ўваходзяць у склад Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па праблемах вынікаў чарнобыльскай катастрофы, маем з імі дзелавыя кантакты. Асабліва ў падрыхтоўцы закона аб «ліквідатарах», які рыхтуюцца прыняць парламенты краіны і рэспублікі.

Наладзілі сувязі з усесаюзнай арганізацыяй «Чарнобыль». Летась яна выдзеліла 65 пуцёвак для лячэння ў санаторыях членаў «Прыпяці». Прычым, мы аплацілі праезд членам нашага саюза, калі кошт білета быў больш за 50 рублёў. Пуцёўкі маем і сёлета.

*— Хто можа стаць членам саюза: тыя, хто прымаў удзел у ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі і хто пацярпеў ад яе?*

— Толькі «ліквідатары». Дарэчы, хачу скарыстаць магчымасць і звярнуцца да грамадзян за межамі Беларусі. Членамі «Прыпяці» могуць стаць усе—хто пяць гадоў назад змагаўся з чарнобыльскай бядой. Для гэтага трэба падаць заяву ў савет саюза ці ў пярвічную арганізацыю сваёй вобласці, раёна, а таксама ўнесці 5 рублёў на разліковы рахунак № 700738 у г. Мінску.

*— Вышэй, Мікалай Нічыпаравіч, вы гаварылі, што аказвалі матэрыяльную дапамогу тым, хто пажадаў падлячыцца. Дзе вы бераце грошы? З адных уступных узносаў многа не набярэцца.*

— Гэта так. Уступных мала. Праўда, мы атрымалі пяцьдзесят тысяч рублёў ад Мінскага абласнога савета прафсаюзаў. Нешта перапала ад дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый, нешта ахвяравалі прыватныя асобы. Але гэтага недастаткова. Плануем адкрыць свае малыя прадпрыемствы. Разлічваем і на спагадлівых людзей. Спадзяёмся, што ахвяраванні паступяць і з-за мяжы — ад прыватных асоб і арганізацый. Хацелася б нагадаць наш адрас: г. Мінск, 116, а/с № 181. Саюз «Прыпяць».

*— Будзем спадзявацца, што дапамога прыйдзе. Пакуль жа, Мікалай Нічыпаравіч, застаецца пажадаць вашай «Прыпяці» поспехаў у такой высакароднай справе.*

— Дзякую.

# ЦІ НАБЛІЗІЛІСЯ МЫ ДА ІСЦІНЫ?

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Равінскі напісаў сатыру на Аракчэева, сачыў за развіццём рускай літаратуры, пісаў свае творы.

Разам з мастаком Пятром Драчовым мы склалі мяркуемы партрэт Равінскага, які будзе змешчаны ў часопісе «Неман».

*— Чаму так сталася, што аўтарства славутых паэм было невядома нашчадкам?*

— Цяжка сказаць. Вераніцын можа на нейкім этапе і хаваў сваё аўтарства, бо антыбулгарынскія матывы стваралі пэўную небяспеку, а Равінскі, думаю, і не хаваў. Прозвішча яго проста згубілася з цягам часу. Думаю, што прычынілася гэта ад недастатковай моцы ў той час беларускага літаратурнага працэсу, перарывістасці нашых літаратурных традыцый.

*— А за якую працу вы атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР?*

— За дзве кнігі: «Расшукваецца класік» і «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча». Апошняя носіць крыніцазнаўчы характар. Я паставіў задачу сабраць і сістэматызаваць усе крыніцы, што могуць нам расказаць пра Дуніна-Марцінкевіча. Пра яго напісана нямала, але часам адчуваюцца перапевы. Мяне ж цікавілі першакрыніцы, а не пазнейшыя напластаванні. Як залаты запас забяспечвае тыя папяровыя грошы, што ходзяць у грамадстве, так ёсць комплекс першакрыніц, якія забяспечваюць нашы веды пра пісьменніка.

*— У вас надзвычай шырокае кола даследаванняў: Каліноўскі, Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», а адначасна — россып іншых імёнаў. Ці ёсць сістэма ў выбары тэм даследаванняў?*

— Трэба сказаць, што хоць вы і сказалі, што ў мяне шырокае кола маіх даследчыцкіх інтарэсаў, я лічу сябе, наадварот, вельмі засяроджаным. У мяне ёсць кампактная дзялянка—гэта XIX стагоддзе. За яго межы я выйшаў толькі аднойчы ў сувязі са 100-гадовымі юбілеямі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Было гэта надзвычай карысна і для даследавання XIX стагоддзя, бо дало магчымасць яшчэ больш выразна ўбачыць яго значэнне для развіцця беларускай літаратуры, культуры.

*— Генадзь Васільевіч, вы зацікавіліся Кастусём Каліноўскім, калі яшчэ сама постаць змагара не была такой папулярнай, як сёння, падзеі 1863 года былі мала даследаваны. Ці адрознівалася ваша канцэпцыя ў той час ад агульнапрынятай?*

— Афіцыйны пункт погляду тагачасных гісторыкаў сведчыў, што гэта было сялянскае паўстанне супроць памешчыкаў. Калі я адкрываў першую архіўную папку (а іх у віленскім архіве дзесяткі тысяч), то думаў так жа, але, пазнаёміўшыся з шэрагам дакументаў, зразумеў, што гісторыкі свядома скажаюць праўду. Яны не маглі не бачыць і не разумець таго, што ўбачыў я. Было відавочным, што найбольш актыўнымі ўдзельнікамі паўстання з'яўляліся не сяляне, што бунтавалі супроць грабежніцкай рэформы 1861 года, а сяляне казённыя, перадавое дваранства і гараджане. Недзе ў 1963 годзе, да 100-годдзя паўстання, я напісаў артыкул аб пазіцыі сялянства Літвы і Беларусі ў паўстанні 1863 года, абвяргаючы раней існаваўшы погляд на расстаноўку сіл, называў паўстанне нацыянальна-вызваленчым.

Артыкул паслаў у Маскву ў навуковы часопіс. Прыехалі гісторыкі з Масквы, з Беларусі і Літвы, абмеркавалі маю работу і моцна пабілі мяне. У прэсе пісалі, што я прапаведую буржуазныя погляды, і здзіўляліся, чаму я яшчэ наогул працую. Артыкул мой, канешне, тады не надрукавалі, але прайшоў час, і нікога не здзіўляе погляд на паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага як на нацыянальна-вызваленчае, якое ў асобе сваіх лепшых дзеячаў адпавядала спадзяванням беларускага і літоўскага сялянства. Дарэчы, менавіта тады я пасябраваў з Уладзімірам Караткевічам, які пісаў у той час свой раман «Каласы пад сярпом тваім». Незалежна ад мяне Караткевіч прыйшоў да такой самай ацэнкі паўстання.

*— Вы ўвесь час падкрэсліваеце, што Кастусь Каліноўскі абараняў інтарэсы беларусаў і літоўцаў. Дарэчы, літоўцы лічаць яго сваім героем. А кім на самай справе быў Кастусь Каліноўскі?*

— Літоўцы справядліва лічаць яго сваім героем, таму што ён узначальваў паўстанне ў Літве і Беларусі. Трэба сказаць, што многае яго звязвала і з польскім народам. У тыя часы дваранства, з якога выйшаў Каліноўскі, было моцна апалячана. Але адбывалася яго паступовае вяртанне ў лона беларускага народа. Каліноўскі быў часткай гэтага народа. Ва ўсякім разе сам ён сябе так адчуваў. Чытайце «Мужыцкую праўду», яна пісана чалавекам, які піс[illegible]-беларуску, як дыхаў. Пра гэта ж сведчаць і вершы Каліноўскага, звернутыя да каханай. Гэты чалавек адпавядае нашаму ўяўленню пра тое, што ішло адраджэнне беларускай нацыі і найбольш чуйныя да [illegible]одных патрэб прадстаўнікі [illegible] вярталіся да сваіх вытокаў. У нейкай ступені нават Янка Купала па сваім паходжанні стаяў на раздарожжы. Ён мог стаць трэцеступенным польскім паэтам, але стаў першаступенным беларускім, бо змог найбольш поўна выказацца менавіта на роднай мове.

*— А хто вы па нацыянальнасці, Генадзь Васільевіч? Нарадзіліся ў Каломне, вучыліся ў Маскоўскім гісторыка-архіўным інстытуце, працавалі ў Вільні. Адну з першых кніг сваіх напісалі па-беларуску...*

— Да 13 гадоў я жыў у самым цэнтры Расіі і не чуў ніводнага беларускага слова. У 1944 годзе наша сям'я пераехала на Беларусь. Ніякіх ускладненняў з мовай у мяне не было, хаця ў першым дыктанце зрабіў 37 памылак, у другім — 45, а трэці напісаў на тройку. Гаварыць па-беларуску пачаў, калі пераехаў на сталае жыццё ў Мінск, сур'ёзна адолеў мову, напісаўшы па-беларуску тры кнігі. Ну, а наконт паходжання... Маці мая паходзіць з Беларусі, абрусела беларуска, нарадзілася на Смаленшчыне, а яе бацька з-пад Віцебска, з тых самых месцаў, адкуль Канстанцін Вераніцын.

*— Усе вашы кніжкі рэцэнзаваў Сцяпан Александровіч. Кім для вас быў гэты выдатны вучоны?*

— Мы з ім сябравалі. Ён быў мне за старэйшага брата. Сцяпан Хусейнавіч адыграў вялікую ролю ў далучэнні мяне да беларускай культуры. Побач з Караткевічам і Мальдзісам Александровіч многа паўплываў на мяне. У апошняе дзесяцігоддзе, лічу, у беларускім літаратуразнаўстве многае зроблена, дзякуючы яму. Александровіч даваў прыклад самаадданага служэння навуцы.

*— Вы пачалі цікавіцца беларускай гісторыяй, калі на яе яшчэ не было такой моды, як сёння. Адна з вашых даўнейшых кніжак называецца «Пачынальнікі». Я думаю, што так можна назваць і вас самога. Ваш погляд на беларускую гісторыю сёння, ці наблізіліся мы да ісціны?*

— З'явілася многа цікавых публікацый, многа новых аўтараў, але нярэдка пракідаецца дылетантызм. Сёе-тое з таго, што пішацца сёння аб нашым мінулым, мне не падабаецца. У некаторых беларускіх аўтараў, чаго раней не было, з'явіліся антырускія тэндэнцыі, быццам усё кепскае, злое ў нас— з Расіі. Гэта мода, яна пройдзе, і многім з тых, хто сёння так піша, будзе няёмка. Я крытычна стаўлюся да ганьбавання ўсяго рускага і ідэалізацыі нашага мінулага. Яна не прынясе нам карысці. Думаю, гэта выдаткі пакутлівага працэсу нацыянальнага адраджэння.

*— З вашай кніжкі «Героі і музы» відаць, як цесна беларуская культура пераплятаецца з рускай. У нарысах згадваюцца і Талстой, і Дастаеўскі, і Блок, і дзекабрысты. Ці можна ўсіх іх выкрасліць з нашага духоўнага жыцця, не вывучаць, не чытаць, не карыстацца?*

— Заснавальнікі новай беларускай літаратуры, асабліва Колас і Багдановіч, многа ўзялі ад рускай культуры. Я захапляюся супрацоўнікамі «Нашай нівы» як людзьмі надзвычай культурнымі і адукаванымі, якія ставіліся да ўсіх народаў і іх культуры з адкрытай душой. Сённяшнія часы наогул нейкія дзіўныя. Нават цяжка было ўявіць, што так пачнуць сварыцца народы Савецкага Саюза. Праблем сапраўды нямала, але ў гэтых спрэчках многа штучнага. І нават беларусам, чыімі лепшымі рысамі заўсёды былі далікатнасць і добразычлівасць, гэтыя рысы ставяцца ў віну. Мяне засмучае, што культурныя людзі, падбухтораныя сіламі зла, здольныя ператварыцца ў натоўп. У распальванні падобных настрояў вінаваты часам і журналісты. Вы ж паглядзіце, да чаго мы дайшлі: спакойны матэрыял бывае сорамна несці ў рэдакцыю.

*— Для мяне трошкі нечаканы такі паварот у нашай гутарцы — ад літаратуразнаўства да палітыкі. Але, напэўна, такі ўжо наш час, калі кожны вызначае для сябе сваё месца ў складаных працэсах, што адбываюцца ў грамадстве. У сувязі з гэтым дазвольце ў вас, Генадзь Васільевіч, спытаць: вы за Саюз ці супраць яго?*

— За Саюз бясспрэчна і адназначна. Для мяне Ленін—вялікі і геніяльны чалавек, хоць цяпер таксама модна не прымаць яго. Ён прадугледзеў стварэнне Саюза, у якім кожная рэспубліка самастойная і суверэнная. Сёння ёсць магчымасць тыя ленінскія формулы напоўніць новым зместам. Возьмем хаця б Літву. Я някепска ведаю гэту рэспубліку. Яшчэ гады тры назад ніхто і не падумаў бы, што такое можа там адбыцца. Цяпер Літва настроена на выхад з Саюза, але як многа ў гэтым сэнсе пабудавана на хлусні. Самі літоўцы не адмаўляюць, што яны атрымлівалі больш, чым давалі, мелі лепшыя, чым іншыя рэспублікі, фінансавыя магчымасці. Вось вам і акупацыя.

Мне не падабаецца антыкамунізм часткі сённяшняй інтэлігенцыі. Бясспрэчна, сталіншчыну трэба адмятаць, але ці варта рэзка выступаць супраць руху за светлыя ідэалы? Многае, на жаль, не атрымалася, але гэта няўдача—вялікая страта для ўсяго чалавецтва.

Гутарку запісала
Дзіяна ЧАРКАСАВА.

ПАМЯЦІ Надзеі КАСТЭЦКАЙ

# У ВЯНОК НА МАГІЛУ ЗЯМЛЯЧКІ

Прыйшла сумная вестка з Прагі: 10 сакавіка 1991 года памерла Надзея Кастэцка, наша зямлячка з Баранавіч, актыўная папулярызатарка беларускай культуры ў Чэхіі, вучаніца Міхала Забэйды-Суміцкага, шчырая прыхільніца яго таленту.

Перастала біцца сэрца, багатае высакароднымі парывамі, глыбокай замілаванасцю да сваёй духоўнай спадчыны. Яшчэ нядаўна яна дапамагала стваральнікам фільма «Вяртанне Забэйды». Трэба было бачыць яе, адчуць, колькі душы і заклапочанасці праяўлялася ёю для дасягнення калектыўнага поспеху. Для чэшскіх беларусістаў, асабліва пасля смерці Міхала Іванавіча Забэйды-Суміцкага (снежань 1981 года), Надзея Кастэцка была дасведчанай дарадчыцай па вывучэнню жыццёвага і творчага шляху славутага спевака, кансультантам у азнаямленні з беларускай літаратурай і мастацтвам, гісторыяй роднага краю. У 30-я гады Надзея скончыла Віленскую расейскую гімназію, прымала актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім хоры, працавала ў школах выкладчыцай спеваў. Другая сусветная вайна закінула яе на эміграцыю, дзе лёс звязаў яе з лёсам таленавітага чэшскага музыканта-скрыпача Любаміра Кастэцкага.

У пражскіх школах яна выкладала спевы і рускую мову, шмат займалася самаадукацыяй, працавала ў Нацыянальным тэатры. У Празе на канцэрце сустрэлася і са сваім земляком — М. Забэйдам-Суміцкім, стала яго вучаніцай, а пазней дапамагала яму ў жыццёвых нягодах, апекавалася ім.

Калі ў 80-х гадах сталі пашырацца кантакты людзей, у доме Надзеі Кастэцкай заўжды гасцінна сустракалі беларусаў не толькі з роднага краю, але і з іншых краін свету. Яна лічыла сваім абавязкам паказаць прыезджым гасцям памятныя мясціны Прагі, звязаныя з гісторыяй чэшска-беларускіх сувязей, вазіла іх на Гальшанскія могілкі, дзе пахаваны многія дзеячы беларускай эміграцыі. Тут жа непадалёку ад царквы знаходзіцца магілка яе настаўніка М. Забэйды-Суміцкага, на якой заўжды красуюцца кветкі.

Імя Надзеі Кастэцкай шырока вядомае ў асяроддзі чэшскіх беларусістаў і беларускай інтэлігенцыі на Бацькаўшчыне. Шмат намаганняў яна прыклала, каб захаваць і перадаць на Радзіму асабісты архіў М. Забэйды-Суміцкага, паводле ягонага тэстаменту.

Ушаноўваючы светлую памяць Надзеі Кастэцкай, з глыбокім жалем і смуткам схіляем галовы...

**Юрый ВАСІЛЕЎСКІ, Іван ЛУЧЫЦ-ФЕДАРЭЦ, Леў [illegible]АЧЫЦКІ, Генадзь САГАНОВІЧ, Алеся СЕМУХА, [illegible]на СУРМАЧ, Іван ЦІШЧАНКА, Рышард ЯСІНЬСКІ.**



**Добрай традыцыяй Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР стала супрацоўніцтва з беларускімі аўтарамі. Пацвярджэнне таму — прэм'ера «Калі запяе певень» па п'есе драматурга і празаіка Георгія Марчука. Музыку да спектакля, у якім заняты вядучыя артысты тэатра, напісаў кампазітар Алег Чыркун.**

**Народная музычная камедыя, пастаўленая рэжысёрам Віталем Катавіцкім, адкрывае гледачу новыя межы беларускага фальклору, народнага гумару, нацыянальны каларыт песеннага і танцавальнага мастацтва продкаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля.**

**Фота І. ЮДАША.**



*ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ*

# МАЙСТАР—НАШ ПРОДАК

Вам хацелася б паглядзець, як вядуцца раскопкі і даведацца, што гэта за праца такая ў археолагаў? Вы можаце ўявіць сабе, як стаялі ля сцен навагрудскага замка крыжацкія загоны? А можа, вас вабіць старажытнае мастацтва?

Зрабіць гэта дапамагае кніжка «Майстар — наш продак», напісаная Алесем Краўцэвічам, што выйшла ў выдавецтве «Народная асвета».

У невялікай прадмове аўтар адзначае, што пісаў «аб звычайных, на першы погляд, рэчах»: розных «гліняных гаршках, місках, талерках, пячной кафлі». Але, як высветлілася потым, менавіта яны з'явіліся асноўнай крыніцай тых найцікавейшых звестак, пра якія так красамоўна апавядае Алесь Краўцэвіч.

Кнігу можна падзяліць на дзве часткі. Першая — своеасаблівыя ўводзіны ў таямніцы археалогіі. Праўда, аўтар так дасціпна тлумачыць іх, што таямніцамі яны ўжо не здаюцца.

Што такое культурны слой, аб чым сведчыць яго таўшчыня, што азначаюць незразумелыя скарачэнні і лічбы, якія ставяць археолагі на знаходках,— усё гэта, можна сказаць, раскладзена па паліцах, што рэдка сустракаецца нават у школьных падручніках. Пра ўтварэнне культурнага слоя расказваецца так, быццам бы сам прысутнічаеш пры гэтым. Бачыш, як «жаўцее на сонцы слой сасновых трэсак» каля свежазбудаванага жылля старажытнага беларуса; як палае паселішча ў час нашэсця ворагаў; як потым зноў будуюцца новыя хаты.

У гэтай жа частцы А. Краўцэвіч запрашае і ў своеасаблівае падарожжа. Назвы артыкулаў гавораць самі за сябе: «Як шукалі мірскую ратушу», «На навагрудскіх пагорках», «Паселішча на рэчцы Ашмянцы», «Мястэчка каля замкаў». Тут ужо вам давядзецца падарожнічаць разам з групай археолагаў, у якую ўваходзіў і аўтар кнігі. Прыйдзецца шукаць фундаменты старых будынкаў і межы паселішчаў, спускацца ў шурфы, што часам капалі на падворках мясцовых жыхароў, іншы раз нават знаходзілі скарбы.

А можа, камусьці цікавей будзе паслухаць апавяданні пра тое, як старажытныя паселішчы адбіваліся ад «сквапных суседзяў-крыжакоў», дзе і як жыў наш майстар-продак?

Накіраванасць другой часткі кнігі можна вызначыць па назве яе першага артыкула: «Зроблена рукамі продкаў». Усё, што ў ім змешчана, проста цяжка пералічыць. Тут шмат найцікавейшых ілюстрацый.

Вось «патэльня на трох ножках і з ручкай», якая называецца рынка. А вось макотра—пасудзіна, подобная на гаршчок, якая ўжывалася «для прыгатавання раслiннай ежы, замесу цеста, захавання сыпучых прадметаў». А хіба не цікава даведацца, як праходзіла эвалюцыя кафлі: ад самай старажытнай, трохі нязграбнай гаршковай — да дасканалай, з багатым малюнкам і формай, кафлі XVI—XVII стагоддзяў. Такая нам зараз ужо і не сніцца...

Адчуваецца, што аўтар сапраўды жадае аднавіць здабыткі амаль страчанага мастацтва. Ён слушна прапануе мясцовай прамысловасці выкарыстаць дзесяткі відаў арнаментаў, «распрацаваных старажытнымі майстрамі і апрабаваных на працягу некалькіх стагоддзяў». Тут жа можна ўбачыць, якія люлькі курылі раней беларусы, з якіх шклянак пілі. Тым цікавей, што ва ўсім гэтым ёсць рысы тых рэчаў, якімі мы карыстаемся сёння.

Хоць вокладка гэтай кніжкі вельмі сціплая, але змест робіць яе цікавай і карыснай не толькі для вучняў, але і для дарослых.

**Вольга БАБАК.**

# З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

**Некалі маналітны Саюз мастакоў падзяляецца сёння на шэраг суполак па ідэйных, стылявых і матэрыяльных інтарэсах. Суполка «Пагоня» створана ў канцы мінулага года. У ёй больш як 50 мастакоў, крытыкаў, мастацтвазнаўцаў. Яны прадстаўляюць розныя рэгіёны Беларусі, розныя ўзроставыя групы, стылявыя напрамкі і эстэтычныя арыенціры. Яднае ўсіх палітычная ідэя. Сябры суполкі — прыхільнікі незалежнасці Беларусі (праграма-максімум) і, адпаведна, незалежнага Згуртавання мастакоў Беларусі замест падпарадкаванага Маскве Саюза мастакоў БССР (праграма-мінімум). Нездарма сваю першую выставу сябры суполкі адкрылі напярэдадні 25 сакавіка і прысвяцілі 73-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі.**



**На выставе можна пабачыць новыя і ўжо класічныя творы А. Марачкіна, М. Купавы, Я. Куліка, В. Мікіты, Г. Скрыпнічэнкі, К. Харашэвіча, У. Хадаровіча, А. Свістуновіча, шэрагу іншых. Побач з імі палотны і графічныя аркушы студэнтаў Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, мастакоў-беларусаў з суседніх рэспублік.**

**Прафесійны ўзровень твораў вельмі высокі. Кожны з мастакоў імкнуўся прадставіць на выставе работы, якія з'яўляюцца для яго нібыта візітнай «карткай», якія выклікаюць устойлівую асацыяцыю з асобай мастака. Аднак, на жаль, з гэтай прычыны ўся экспазіцыя набыла крэн у бок «рэтра», і нешта з новых, цікавых твораў засталося, так бы мовіць, за кадрам.**




**У межах суполкі, зразумела ж, ёсць свая субардынацыя: адны мастакі ўжо маюць імя на Беларусі і за яе межамі, іншыя толькі пачынаюць творчы шлях. Але гэтая акалічнасць ніякім чынам не адбілася на фарміраванні экспазіцыі. Лепшыя месцы ў зале Палаца мастацтва адводзіліся лепшым творам, а не імёнам. На выставе ёсць амаль усё, што ўвогуле ёсць у беларускім выяўленчым мастацтве: рэалістычная традыцыя і нацыянальны рамантызм, стрыманы экспрэсіянізм і гіперрэалізм у характэрнай беларускай афарбоўцы. Ёсць амаль усё, але сяго-таго і няма, хоць магло б і быць. На жаль, толькі адной работаю прадстаўлены А. Пушкін — зорка леташняй абароны дыпломаў у Тэатральна-мастацкім інстытуце, няма ў зале твораў аднаго з лідэраў беларускага авангарду А. Тарановіча, шырэй магла быць прадстаўлена скульптура. Аднак жа вядома, што няма нічога такога добрага, што не магло б быць яшчэ лепей. Гэтая выстава, безумоўна, неардынарная падзея ў беларускай культуры. У сяброў суполкі ёсць падставы лічыць сябе спадкаемцамі культурных здабыткаў 70—80-х гадоў, часу, калі менавіта дзеячы мастацтва (найперш — выяўленчага) былі ці не адзінымі носьбітамі нацыянальнай свядомасці на Беларусі.**

**У пачатку экспазіцыі гледача сустракае выява Пагоні і бел-чырвона-белы сцяг. Здаецца, толькі ўчора міліцыянты выраўвалі гэтыя сцягі і гэтыя выявы з рук дэманстрантаў... Ну што ж — жыве Беларусь!**

**С. ЖНІВЕНЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: знаёмства з выставай; М. КУПАВА. «Вялікі князь Вітаўт»; гукі сурмы запрашаюць наведвальнікаў на выставу (Алесь і Уладзімір ПУЗЫНІ).**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

# ЧЭШСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСІСТАЎ

У Празе і Браціславе з прыязнасцю была сустрэта вестка аб утварэнні Беларускага аб'яднання сяброў чэшскай і славацкай культур імя Міхала Забэйды-Суміцкага. Стала таксама вядома, што нядаўна (8 сакавіка) у Празе адбылася Першая асноватворчая сустрэча чэшскіх беларусістаў. Яе ўдзельнікамі былі вядомыя навукоўцы (дактары) Вацлаў Жыдліцкі, Мікулаш Затаўканюк, Міласлаў Зіма, Вольдржых Лешка і Францішка Сакалова, літаратары-перакладчыцы Гана Врбова і Йіржына Міклушакова, студэнткі, якія зацікавіліся беларускай мовай і культурай: Рамана Кошыжава, Радка Кунцава і Йітка (Юдзіфа) Лубітоўска.

На сустрэчы пасля ўсебаковага абмеркавання статута Чэшскай асацыяцыі беларусістаў быў абраны камітэт (рада) у складзе В. Жыдліцкага (старшыні), Ф. Сакаловай (сакратаркі) і Р. Кошыжавай (скарбнічкі).

Жадаем Чэшскай асацыяцыі беларусістаў добрага плёну ў высакароднай дзейнасці.

**Леў МІРАЧЫЦКІ,**
**член Беларускага аб'яднання сяброў чэшскай і славацкай культур імя Міхала Забэйды-Суміцкага.**

# АДЫСЕЯ ЗВАНА

Тонкім і пяшчотным ранішнім малінавым гукам нагадвае па нядзельных і святочных днях сельскаму наваколлю пра сваё вяртанне праслаўлены моладаўскі звон.

Многія стагоддзі радаваў ён сэрцы людзей. Пра гэты звон жыхары палескай вёскі Моладава помнілі ўсе трыццаць гадоў з таго часу, калі царкву закрылі, збілі з яе крыж, а звон скінулі.

Затым звон вывезлі ў Мінск, і да апошняга часу ён быў экспанатам у музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

Гэта ўжо трэцяя і, трэба спадзявацца, апошняя адысея звона, на якім яшчэ чатыры стагоддзі назад зрабілі надпіс: «...звон ест отлит в славном месте Ковне и надан до церкви божей села Молодово на веки непорушно».

## ФИРМА



## ПРЕДЛАГАЕТ

**Урал, Алтай, Башкирия, Якутия, Восточные Саяны, Восточная Сибирь, Белоруссия ждут любителей путешествий и приключений, кинооператоров, охотников и рыболовов, натуралистов и ученых, взрослых и детей. Срок путешествия от 7 до 14 дней.**

**Если вы хотите сделать подарок родственникам и знакомым, обратитесь к нам. Любой дом или дачу в любом уголке Белоруссии мы построим в кратчайшие сроки.**

**Если фирма или организация захочет помочь пострадавшим от чернобыльской катастрофы переселенцам в постройке дома, мы к вашим услугам.**

**Память об умерших родственниках — это святая память.**

**Если на территории Белоруссии остались могилы ваших родственников и знакомых, мы постоянно будем следить, чтобы они были ухоженными и на них всегда стоял букетик цветов.**

**Если у вас есть деловые предложения по созданию совместных предприятий, мы ждем их.**

ПИШИТЕ ПО АДРЕСУ: БССР, 220020, г. Минск, А/я 148 или звоните по тел. 63-35-42.

## НЕЗАВИСИМЫЙ БЕЛОРУССКИЙ ТЕХНОЛОГИЧЕСКИЙ КОНЦЕРН

# «АЛЬБАТЭКС»

## ПРЕДЛАГАЕТ СОТРУДНИЧЕСТВО ЗАРУБЕЖНЫМ ФИРМАМ И БИЗНЕСМЕНАМ ПО СЛЕДУЮЩИМ НАПРАВЛЕНИЯМ:

строительство и эксплуатация отелей, мотелей и кемпингов, станций технического обслуживания на автомобильной трассе Брест—Москва;

углубленная переработка экологически чистой сельскохозяйственной продукции на базе малых предприятий;

организация сети ресторанов, кафе, закусочных;

производство столярных изделий, мебели, переработка отходов древесины;

поставка отходов химической промышленности;

производство промышленных и спортивных изделий из углеродистых волокон;

проектирование инженерных сетей и коммуникаций для развития инфраструктуры городов;

консультации зарубежных фирм по экономическим, финансовым, налоговым, правовым вопросам при осуществлении деловой деятельности на территории СССР;

поиск деловых партнеров для организации совместной экономической деятельности;

представительство интересов зарубежных фирм и бизнесменов в Белоруссии и в других республиках СССР.

НАШ АДРЕС:
220005, Минск, Ленинский проспект, 44.
Концерн «Альбатэкс».
Телефоны: 33-17-03, 33-16-23.
Факс: (0172) 310113.

## «ICEBERG, LTD.» COMPANY IS IN SEARCH OF A FOREI[illegible] PARTNER

THE COMPANY WITH THE LIMITED RESPONSIBILITY «ICEBERG, LTD.» IS IN SEARCH OF FOREIGN COMPANIES WILLING TO POSITION IN THE MAR KET OF BYELORUSSIA AND TO EASE BY THAT — ON A MUTUALLY ADVANTAGEOUS BASIS — THE SURVIVAL OF THE PEOPLE WHO BECAME VICTIMS TO THE CHERNOBYL DISASTER. WE HAVE THE OPPORTUNITY OF CHOOSING BUSINESS PARTNERS ACCORDING TO YOUR COMMERCIAL OFFERS AND OF FORWARDING OUR OWN SUGGESTIONS.

We are interested in companies wishing to become cofounders of the International Commercial Bank COMINBANK with mixed capital of 5 mln. rbls. In this case the companies will be able to carry their activities, including joint activities, through our Bank, which is being founded by the group of multi-profile Byelorussian businesses with the view to guarantee investments to the economy of Byelorussia, providing expidiency and reliability of currency and finance operations, also giving foreign partners the opportunity to convert returns in rubles.

«ICEBERG, LTD.» COMPANY IS IN SEARCH OF A FOREIGN PARTNER FOR ORGANISING JOINT COURSES OF DECORATIVE AND HYGIENIC COSMETICS.

THESE COURSES WILL INCLUDE BESIDES REHABILITATION TREATMENT, SIGHTSEEING IN BYELORUSSIA AND LITHUANIA, RECIPES OF BYELORUSSIAN AND RUSSIAN CUISINE.

We shall need from a foreign partner assistance in purchasing certain equipment and medicines and also organisation and advertisement services abroad.

We are in search of sponsors for organizing of a raffle under the motto «Children of Chernobyl».

LOOKING FORWARD TO YOUR SUGGESTIONS.

THE BUREAU'S ADDRESS:

220034, Minsk, 6 Z. Byadulya Str.
tel. (0172)553665 fax. (0172)368083

## ФІРМА

# «ІНТЭР-САЛІКС»

прапаноўвае аптовы продаж сваіх тавараў: электроніку (спадарожнікавую антэну, відэатэхніку), касметыку, харчовыя вырабы, адзенне, тэхналагічныя лініі, легкавыя аўтамабілі заходніх фірм і іншую прадукцыю.

Наша фірма таксама гатова купіць у савецкіх і замежных партнёраў дубовае дрэва ў колькасці 3 600 кубічных метраў у год; чырвонае дрэва ў колькасці 1 300 кубічных метраў у год; рыбу марожаную (траску, судака, ласося, камбалу, вугра) і рыбапрадукты; авечыя шкуркі; шампанскае; мармур; дзічыну замарожаную; паперу; падкладачную тканіну.

Мы гатовы разгледзець любыя прапановы па кааперацыі і адкрыццю магазінаў нашай фірмы ў СССР, а таксама ў іншых краінах.

Магчымы розныя формы аплаты (наяўнымі, акрэдытывам, пацверджаным у Польскім Банку, кампенсацыйным разлікам).

НАШ АДРАС:
Польшча, 64300, г. Новы Томышль, плошча Неподлеглосці.

Тэлефон: 22-166.
Тэлекс: 412894 Coss Pl.
Тэлефакс: 66622114.



## ЗАПРАШАЕ НАЧНОЕ ШОУ

Мінскі Палац культуры чыгуначнікаў раз у месяц праводзіць начное шоу, якое пачынаецца ў 24 гадзіны і заканчваецца ў 6 гадзін раніцы. Паўночнікаў чакаюць дыскатэка, канцэртна-забаўляльная праграма, гульні, латарэі, дэманстрацыя мастацкіх фільмаў. Гасцямі начнога шоу былі ансамбль «Верасы», артысты тэатра сатыры і гумару «Хрыстафор» Анатоль Длузскі, Яўген Крыжаноўскі, Юрый Лясной, салістка Дзяржканцэрта БССР Юлія Скараход, артысты Саюздзяржцырка Юрый Лысенка, Канстанцін Бяссонаў, заслужаны артыст РСФСР Юрый Аляксандраў, ансамбль «Рэфлекс» і многія іншыя. Працуюць буфет, відэакафэ.

Начное шоу заваявала папулярнасць гледачоў—білеты раскупляюцца задоўга да пачатку прадстаўлення.

## ДЛЯ НУМІЗМАТАЎ

Падзеяй года для нумізматаў рэспублікі стане выхад у свет каталога манет, сігнальныя экземпляры якога ўжо надрукаваны. Вядомыя палітыкі і правадыры пралетарыяту, выдатныя дзеячы навукі і культуры, ,знамянальныя даты ў гісторыі нашай Радзімы і цудоўныя помнікі архітэктуры — такой шырокай палітрай прадстаўлена шматвяковая гісторыя дзяржавы на старонках гэтага выдання. Урэшце, выхад у свет кніжкі-малюткі прынясе сапраўднае задавальненне і калекцыянерам кніг: каталог выкананы на высокім мастацкім і паліграфічным узроўні. Зрабіў гэты добры падарунак нумізматам цэнтр вольнага часу «Вір» разам з мінскім гарадскім клубам калекцыянераў «Пошук».

Выпуск каталога — толькі пачатак выдавецкай дзейнасці цэнтра. Ужо цяпер у планах «Віра» выданне асобных прац філосафа і багаслова Аляксандра Меня, некаторых твораў Уладзіміра Вайновіча.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 535.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12